## Зварот да дзяржаўных служачых, работнікаў праваахоўных органаў і суддзяў Рэспублікі Беларусь

Паважаныя Панове! Вам, як нікому іншаму, вядома, што А.Лукашэнка быў абраны Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь на 5 гадоў. Тэрмін яго прэзідэнцтва заканчваецца 20 ліпеня 1999 года. І нельга прамыя тайныя выбары замяніць нейкім рэферэндумам, тым больш, калі ён быў праведзены з вялікімі парушэннямі Канстытуцыі і заканадаўства Рэспублікі Беларусь, і таму яго вынікі не прызнаныя Еўрасаюзам, АБСЕ ды іншымі прадстаўнікамі міжнароднай супольнасці.

У сувязі са сказаным і адпаведна Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прызначыў чарговыя выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на 16 траўня 1999 года. Для арганізацыі і правядзення прэзідэнцкіх выбараў створаны Цэнтральная і (ва ўсіх абласцях і раёнах рэспублікі) тэрытарыяльныя камісіі. Ужо зарэгістраваны і ініцыятыўныя групы кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь (Зянона Пазьняка і Міхаіла Чыгіра).

Аднак, як сведчаць падзеі апошніх дзён, з боку створанага Лукашэнкам рэжыму прымаюцца намаганні на зрыў названых выбараў. Пры гэтым вераломства рэжыму перайшло ўсе межы. Сёння ў турме знаходзяцца старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктар Ганчар і тры сябры гэтай камісіі: Барыс Гюнтэр, Анатоль Гурыновіч і Сяргей Абадоўскі. Многія аштрафаваны на вялізныя сумы - ад 15 да 30 мільёнаў рублёў. Робіцца ўціск на сябраў тэрытарыяльных камісій і незалежныя сродкі масавай інфармацыі.

Пералічаныя дзеянні па зрыву прэзідэнцкіх выбараў, як і парушэнні іншых правоў чалавека, колькасць якіх павялічваецца на Беларусі, заявы Лукашэнкі пра неабходнасць вяртання ў рэспубліку ядзернай зброі, нельга кваліфікаваць інакш як агонія рэжыму. Рэжыму, які давёў эканоміку краіны да разрухі, а яе жыхароў - да небывалага з ваенных часоў збяднення і не бачыць выйсця з гэтага становішча.

Гістарычны досвед паказвае, што гэткія (таталітарныя) рэжымы абавязкова знікаюць (раней ці пазней), як нежыццяздольныя.

Менавіта гэта чакае і рэжым, створаны Лукашэнкам. Мяне, як старшыню Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і чалавека з вялікім жыццёвым досведам, вельмі трывожыць тое, чаму гэтага не разумеюць і ўцягваюцца ў грубае парушэнне заканадаўства (у прыватнасці, зрыў прызначаных Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь прэзідэнцкіх выбараў) шматлікія дзяржаўныя служачыя, работнікі праваахоўных органаў і нават суддзі, для каго выкананне закона павінна быць святой справай.

Няўжо вы думаеце, што за тое злачынства, якое вы чыніце сёння супраць свайго народа дзеля сваіх карысных мэтаў, вам не давядзецца адказваць?

Няўжо вас не навучыў суд над дамачоўскім саўдзельнікам з гітлераўскім рэжымам, які не пазбегнуў пакарання за ўчыненыя злачынствы ў гады Вялікай Айчыннай вайны нават у далёкай ад Беларусі Англіі і атрымаў «сваё» праз болей як 50 гадоў? Памятайце, не будзе тэрміну даўнасці і для вашых злачынстваў!

А калі хто з вас вядзе сумленнае жыццё і трапіў на службу дыктатарскаму рэжыму па нейкаму непаразуменню, дык тым больш, навошта вам падтрымліваць і адказваць за таго, хто антыканстытуцыйным шляхам узурпаваў уладу і ніяк не можа з ёю развітацца?

Набярыцеся мужнасці і скіньце з сябе цяжар страху!

Вы адчуеце палёгку на душы і з надзеяй станеце глядзець у будучыню.

Панове! Падумайце не толькі пра свой лёс, але і пра лёс вашых дзяцей і ўнукаў! Не кладзіце на іх пляму ганьбы за ваш саўдзел у чорных справах дыктатарскага рэжыму. Задумайцеся над тым, што яны скажуць вам, калі гэты антынародны рэжым апынецца на сметніку гісторыі, і наша краіна стане вольнай дэмакратычнай праваой дзяржаваю, як таго і патрабуе Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь!

А залогам таму, што гэта так і будзе, з'яўляецца той страх перад будучыняй, які апаноўвае вас, і ўпэўненыя дзеянні па вяртанню на канстытуцыйны шлях развіцця Рэспублікі Беларусь тых, каго вы сёння спрабуеце запалохаць. Дарэчы, больш зрабіць вы ўжо нічога не можаце. Ваш час заканчваецца 20 ліпеня 1999 года.

Адумайцеся і спыніцеся, пакуль не позна!

**Сямён Шарэцкі,**
**Старшыня Вярхоўнага Савета**
**Рэспублікі Беларусь**

## Хроніка здзекаў над Ганчаром

**6 сакавіка Віктар Ганчар, відавочна, быў сілком выведзены са стану сухой галадоўкі, у якім ён знаходзіўся са дня арышту - 1 сакавіка. Гэтую выснову можна зрабіць на той падставе, што ўвесь час утрымання яго ў спецпрыёмніку-размеркавальніку ГУУС Менгарвыканкаму да яго не дапускаюць адваката, што з'яўляецца грубейшым парушэннем закона.**

**6 сакавіка** жонцы Ганчара было дазволена толькі паразмаўляць са сваім мужам па тэлефону. Падчас тэлефоннай размовы Старшыня Цэнтрвыбаркама паведаміў, што яго сілаю вывялі са стану сухой галадоўкі. Пасля чаго тэлефонная сувязь была адразу перапынена.

**7 сакавіка.** Да Віктара Ганчара адмовіліся прапусціць машыну «хуткай дапамогі», якую выклікалі сябры Цэнтральнай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Адміністрацыя спецпрыёмніка-размеркавальніка па-ранейшаму адмаўляецца шпіталізаваць Ганчара ў спецыялізаваную медычную ўстанову. У сувязі з гэтым жонка старшыні ЦВК звярнулася з заявай ў пракуратуру Маскоўскага раёна сталіцы з просьбай прыцягнуць усіх службовых асобаў, якія выкарысталі фізічны гвалт да яе мужа, да адказнасці, а таксама правесці судова-медычную экспертызу В.Ганчара, якая магла б вызначыць сапраўдны стан яго здароўя, а таксама адказаць на пытанні: якія цялесныя пашкоджанні яму прычынены і ў якой ступені.

**9 сакавіка.** Дзяжурны ўрач спецпрыёмніка-размеркавальніка ГУУС Менгарвыканкама паведаміў наступнае: стан Віктара Ганчара здавальняючы. Ад ежы і пітва В.Ганчар адмаўляецца.

Цэнтральная камісія па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь звярнулася са спецыяльнай заявай да старшыні АБСЕ сп. Кнуту Воллебеку, у якой гаворыцца, што «прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка перайшоў да расправы са сваімі палітычнымі апанентамі».

**Прэс-цэнтр Цэнтральнай камісіі**
**па выбарах Прэзідэнта**
**Рэспублікі Беларусь**

## Не дапусцім паўтору румынскіх падзеяў!

**Калі прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сарве прызначаныя Вярхоўным Саветам выбары кіраўніка дзяржавы, яго чакае лёс румынскага дыктатара Мікалае Чаушэску. Такое меркаванне выказаў віцэ-спікер Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка 7 сакавіка ў вячэрнім эфіры радыёстанцыі «Свабода».**

Паводле яго словаў, улады робяць усё, каб гэтыя выбары не адбыліся. Аднак, нягледзячы на гэта, выбары «будуць набіраць ход» і знаходзяць усё большую падтрымку як у Беларусі, гэтак і за яе межамі. Г.Карпенка назваў «выдатным» пачатак перадвыбарчай кампаніі ў Беларусі і высока ацаніў працу Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта на чале з Віктарам Ганчаром. Ён заклікаў Ганчара спыніць галадоўку, паколькі «нам патрэбны здаровыя людзі, здольныя змагацца з гэтымі ўладамі».

На думку віцэ-спікера, неабходна пазбегнуць расколу ў стане дэмакратычных сілаў, які можа ўзнікнуць у часе перадвыбарчай барацьбы. У адваротным выпадку, заявіў Г.Карпенка, дэмакраты зробяць «самую вялікую памылку за апошні год». Між іншым, Г.Карпенка не выключыў верагоднасць удзелу апазіцыі ў прэзідэнцкіх выбарах, якія можа ініцыяваць у гэтым годзе сам А.Лукашэнка. Аднак, па яго ных словах, гэта адбудзецца толькі ў тым выпадку, калі будуць вырашаны праблемы са свабодным доступам апазіцыі да сродкаў масавай інфармацыі і кантролем за падлікам галасоў.

# Праект «Чыгір»

**Існуе дастаткова фактаў, каб высьветліць відавочныя рэчы, пра якія я пісаў яшчэ год таму.**

Выбарчая ініцыятыва Чыгіра - гэта ёсьць маскоўскі палітычны праект. Нам вядомыя яго каардынатар, натхняльнікі, крыніца фінансаваньня.

Задача і сутнасьць праекту - стварэньне «сваёй», прамаскоўскай апазыцыі Лукашэнку ў Беларусі і палітычнае зьнішчэньне Беларускага Народнага Фронту і яго кіраўніка.

Зьяўленьне былога саўдзельніка Лукашэнкі ў якасьці прэтэндэнта на пасаду прэзыдэнта адразу сканкрэтызавала палярызацыю палітычных апазыцыйных сілаў у Беларусі. Апазыцыйная і пакрыўджаная намэнклятура, маргіналы і дэмакраты «ваабшчэ» (і нават -нездаволеная «вертыкаль») убачылі асобу для арыентацыі. І яны тут жа на яе зарыентаваліся. Ідзі тыя ж самыя, што і ў Лукашэнкі (карупцыя, кілбаса, заробак), але Чыгір - супраць Лукашэнкі.

Засталося выцягнуць на рынг Беларускі Народны Фронт і, скарыстаўшы яго структуры для чорнай работы па выбарах, - накуатаваць.

Разьлік прагматычны, бо вядома, што калі на Беларусі заспрачаецца кілбаса з Богам, кілбаса з мовай, кілбаса зь незалежнасьцю і свабодай, то пераможа вялікая памяркоўная і талерантная кілбаса. А дакладней - мара пра кілбасу. Гэтак прыйшоў і Лукашэнка.

Таму Чыгір ужо заранёў - за кілбасу: «Народ забыл запах хорошей варёной колбасы, а на сыро-вяленую - смотрит, как когда-то смотрели на чёрную икру: аппетитно, но не по карману.... При Чигире, - кажа Чыгір, - учителя и врачи получали ровно в три раза больше, чем сейчас. И пенсионерам тоже платили не только в срок, но и столько, что хватало на колбасу, а не как сейчас - на обглоданные кости». **(«Свободные новости» - 1999, 26.02- 5.03).** Вось як добра было «при Чигире» (які быў пры Лукашэнку).

Аўтары праекту «Чыгір» цудоўна ведаюць, што рэальных выбараў ні яны, ні Лукашэнка не дапусьцяць. Але трэба правесьці законныя выбары любым чынам. Нават калі на іх прыйдзе пяць адсоткаў выбаршчыкаў. Важна толькі, каб перамог Чыгір. Тады праект скончаны. Прапаганда прадставіць Чыгіра як лідэра апазыцыі, бо за яго прагаласавае «народ», а яго каманду (якая пературбоўцца ў партыю) - як галоўную апазыцыйную сілу супраць Лукашэнкі.

З Чыгірам, а не з Пазьняком, пачне размаўляць і насіцца дарагічы Захад. Лукашэнка, магчыма, нават засядзе з Чыгіром за «круглы стол», дзе паплечнікі-антаганісты паспрачаюцца аб жыцьці, будучыні і г. д.

Беларускі Народны Фронт і ўвесь беларускі нацыянальна-вызвольны рух зь яго праблемамі будзе адсунуты на пэрафэрыю палітыкі. Захад перастане мець зь ім справу, а Масква - баяцца. У яе будзе ў Беларусі ўжо свая ручная надзейная апазыцыя, свая альтэрнатыва. Справа інкарпарацыі Беларусі ў Расею пойдзе хутка, бо Масква набывае рычаг узьдзеяньня на Лукашэнку, які просіць задорага (прэзыдэнцтва над Расеяй за Беларусь). Цяпер яму скажуць: прадавай за «віцэ», а то купім у Чыгіра за капейку.

Ня дзіўна, што Лукашэнка ўжо нэрвуецца. Гэты праект расейскіх спэцслужбаў значна больш сур'ёзны, чым ранейшая агентурная самадзейнасьць з выбіраньнем «нацыянальнага лідэра», стварэньнем «Хартыі-97», ці сшываньне апазыцыі з маргінальных дэмакратаў (якіх Лукашэнка гатовы быў аплочваць). Народны Фронт такімі сцэнарамі ня купіш, хоць мы мелі шмат клопатаў з даверлівымі людзьмі ў сваіх шэрагах.

Цяпер жа абставіны такія, што мы вымушаныя ўдзельнічаць у чужым праекце, накіраваным супраць нас. Аднак мы бачым наскрозь маскоўскіх мудрацоў і хутка адмераем, колькі спатрэбіцца ім прастаты.

Праект маскоўскі, але сцэнар будзе наш. Заклікаю ўступаць у грамадзянства БНР. Адразу пасьля перамогі ў прэзыдэнцкай кампаніі мы пачнем падрыхтоўку да выбараў Грамадзянскага (Нацыянальнага) парляманту Беларусі, які прыме Закон аб выбарах па зьмешанай сыстэме і абвесьціць парляманцкія выбары. Мы вернем Беларусь у прававое канстытуцыйнае поле і выбярэм сапраўды беларускі дэмакратычны парлямант. Зьнішчыць яго ня ўдасца нікому. Мы сьцьвердзім парляментарызм на эўрапейскім узроўні і адновім усё, што было страчана за гады антыбеларускага рэжыму.

**Зянон Пазьняк**

## Міша зноў не супраць дамовіцца з Сашам

**На думку былога прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра, развіццё палітычнай сітуацыі ў краіне наўрад ці прывядзе да двоеўладдзя. У інтэрв'ю расійскай «Общей газете» ён заявіў, што да гэтага справа не дойдзе ў святле «неаднаразовых заяў прэзідэнта, што ён не баіцца выбараў, гатовы хоць заўтра іх аб'явіць і ўпэўнены ў сваёй перамозе».**

Паводле словаў М.Чыгіра, які, як вядома, мае намер удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах, прызначаных Вярхоўным Саветам 13-га склікання на 16 траўня бягучага года, аптымальным выйсцем магло б стаць перамовы прэзідэнта і апазіцыі, падчас якіх быў бы знойдзены кампраміс. Экс-прэм'ер прадугледжвае зрабіць усё, што ад яго залежыць, каб прадухіліць грамадзянскі канфлікт, які можа ўзнікнуць у выпадку ўзнікнення двоеўладдзя. «Ёсць таксама прадстаўнікі сілавых структур, каторыя мне сказалі: вы толькі дайце нам законнае абгрунтаванне, а мы ўжо самі давядзем сітуацыю да лагічнага завяршэння... Людзі стаміліся ад таго, як цяпер жыве Беларусь, і афіцэры — не выключэнне», — заявіў М.Чыгір. Адначасова ён паведаміў, што заручыўся падтрымкай «з боку людзей у пагонах».

Паводле словаў М.Чыгіра, улады не аказваюць ціску на яго ці яго сям'ю пасля заявы аб намеры балатавацца на прэзідэнцкую пасаду. «Удзячны уладам, што гэтага не здарылася. І здзіўлены — такое магчыма толькі ў дэмакратычнай дзяржаве», — заявіў М.Чыгір.

**Дзмітрый Уласаў**

# Беларусь - у NATO

**Тое, што Вярхоўны Савет аб'явіў дату выбараў прэзідэнта на 16 траўня лічу правільным, інакш навошта ён існуе. Пасьля гэтай даты Лукашэнка практычна страчвае легітымнасьць і становіцца ўзурпатарам. Але далей да дэмакратыі на Беларусі можна прыйсьці толькі так, як было было зроблена з Гітлерам і Чаўшэску.**

Іншы шлях адхіленьня ад улады Лукашэнкі, без прыданьня яго й ягонага атачэньня суду, ніякай дэмакратыі ня дасьць. Як гэта зрабіць? Дзе ўзяць тыя сілы, што змогуць рэалізаваць гэтую задачу? Менавіта на гэтае пытаньне любы рэальны палітык, які хоча выцягнуць Беларусь з багны, а не імкнецца толькі да ўлады, і павінен даць адказ. Вось гэтую задачу, лічу, у першую чаргу і павінен вырашаць Беларускі Народны Фронт. Калі ён на гэта здатны.

Новыя выбары пад крылом Расеі могуць толькі замяніць Лукашэнку на крыху прывабнейшага, але такога ж саўка. Ні Чыгір, ні хто іншы, які задаволіць Расею й сёньняшні электарат, ня зьменіць кірунак развіцця краіны. Застануцца крадзеж, група́ўшчына й хабарніцтва, а за імі развал. Можа Расея (асабіста Прымакоў) і хоча замяніць Лукашэнку. Другі маскоўскі пастаўленьнік можа й дасьць магчымасьць выпускаць незалежныя газэты, радыё, тэлевізыю, але хто дасьць гарантыю, што праз 4-5 год ня вернецца той самы Лукашэнка?

Унутры Беларусі ні сёньня, ні ў бліжэйшае дзесяцігоддзе сілаў, здатных зьмяніць сітуацыю, каб асудзіць савецкі шлях, няма. Гэта можа зрабіць толькі міжнародная супольнасьць з дапамогай сілаў Паўночна-Атлантычнага Абарончага Саюза (NATO).

Дасягнуць адраджэньня, незалежнасьці, дэмакратыі – як раз тое, чаго дамагаецца Фронт, і дзеля чаго ён быў створаны – Беларусь зможа толькі абраўшы шлях у Эўропу. А захаваць яго – будучы сябрамі NATO. Магчыма й ад Лукашэнкі пазбаўляцца давядзецца не толькі нам самім, але й тым жа эўрапейцам з дапамогай NATO. Вось гэта трэба ўкладаць у вушы хоць крыху здатным думаць саўкам.

"Наш дом – Беларусь" можна збудаваць толькі жывучы ў Эўропе пад абаронай NATO. Калі моладзь жадае прыстойна жыць, надзейна, без узрушэньняў і войнаў – яны падтрымаюць намаганьні па рэалізацыі гэтай ідэі. Але такі лозунг ня можа сёньня прынесьці перамогу ні на якіх выбарах, таму й зьяўляюцца праграмы накшталт пяці пальцаў.

У Віцебску накірунак "Беларусь у Эўропу і NATO!" праводзіўся Радай БНФ "Выбар" яшчэ з 1993 году. Тады даваліся размяжоўваца. Сёньня такой неабходнасьці няма, бо й так усё вядома. Трэба рабіць сваю справу. Нацыянальная ідэя, на заснове якой пабудаваная Эўрапейская супольнасьць, ня можа быць дасягнутай, сідзячы ў штаб-кватэрах за кампутарамі. Гэта трэба выкарыстоўваць, але ж і праяўляць моц духу і волі, несьці ахвяры. Дзе ёсьць хоць адна краіна ў Эўропе, народ якой абыйшоўся бяз гэтага?

**У.П.**
**ВітІнфармБюро**



# Калі нельга, але надта хочацца, - то можна?

**Чалавека, які спраўляе свае, пардон, фізіялагічныя патрэбы проста на вуліцы, сустрэць сёння ў горадзе можна ў любым месцы ў любы час. Нават на мосце праз Нёман. І гэта прытым, што каналізацыю цывілізаваныя народы вынайшлі яшчэ некалькі тысячагоддзяў таму.**

Надзвычай ярка і рэзка праблема праявілася падчас Свята зімы і адпачынку, што ў апошні дзень лютага праходзіў у Пышках. Хто там быў - бачыў, што гараджане знаходзілі сабе стол і дом ля кожнага дрэўца і кусточка. Увесь лес быў засеяны святкуючымі кампаніямі. А там, дзе п'юць - непазбежна ўзнікае праблема вывядзення залішняй вадкасці з арганізму. Вось тут чалавек і трапляе ў пікантную, амаль невырашальную сітуацыю: каб знайсці месца без чужых вачэй, яму трэба было прабегчы недзе кіламетры два. Прабегчы, бо ніякага намёка на WC у месцах адпачынку не было. Фантастычная па абсурднасці арганізацыя народнага гуляння: сабраць у адным месцы ў адзін час некалькі тысячаў чалавек (а паводле некаторых звестак, у гэты дзень у Пышках перабывала трэць горада) - і не забяспечыць іх «месцамі для адпачынку». У выніку грамадзяне на падпітку будавалі перасовачныя кабінкі (выкарыстоўваючы пакрывалы) ці жывыя сценкі, накшталт футбольных, за якімі хавалі небаракаў. На заканамернае пытанне «што рабіць, калі надта хочацца?» два міліцыянты толькі паціснулі плячыма. Потым, падумаўшы, параілі пералезці праз плот дзіцячага летніка і пашукаць прыбіральню там.

Аднак асобаў у характэрнай позе хапае на вуліцах і ў буднія дні, і ў выхадныя. Народ ужо прызвычаіўся: заўважыўшы постаць, жанчыны сарамліва хаваюць вочы, а мужчыны проста праходзяць далей, лічачы за лепшае «не заўважыць». І то праўда: каму трэба звязвацца з п'яным? Бо, сапраўды, часцей за ўсё вінаватыя сапраўды тыя, хто на падпітку, ці бамжы. І тое, што цэнтр горада, самая прыгожая яго частка, сёння служыць вялікай грамадскай прыбіральняй - вынік бяскультурнасці саміх гараджан і абразлівай абыякавасці да родных мясцін. Каму ў галаву сёння прыйдзе адпачываць у скверыку паміж Палацам тэкстыльшчыкаў і Домам прафсаюзаў, што на Савецкай плошчы? Гэта святое месца - тут стаяў падарваны храм, Фара Святога Вітаўта. Аднак яно даўно ўжо ператворана ў прыбіральню. Рэчаіснасць даводзіць, што гэта вынік дзвюх з'яваў: суб'ектыўнай і аб'ектыўнай. Першая вынікае з нашай бяскультурнасці. Другая, аб'ектыўная, - з таго, што ў нас папросту не хапае месцаў агульнага карыстання. У аддзеле камунальнай гігіены гарСЭС лічаць, што калі ні ў адным мікраёне горада няма грамадскай прыбіральні - гэта значыць, іх сапраўды недастаткова. Больш таго, антысанітарыя напрамую пагражае здароўю гараджан.

Праблемы, звязаныя з чалавечай фізіялогіяй, традыцыйна ў нашым постсавецкім грамадстве лічацца непрыстойнымі. Жыццё чалавека заўсёды падзялялася на дзве часткі, нібы на два жанры: высокі і нізкі. Да высокага адносілася калектыўная праца, партыйная праца.

Калі ж чалавек заставаўся сам-насам з сабой, зачыніўшыся ў туалетным пакоі - ён аўтаматычна пераставаў быць членам калектыву, вінцікам вялікай машыны. Ён ступаў на тэрыторыю сваіх асабістых, а значыць, «нізкіх», непрыстойных праблем. Пра гэта сведчыць савецкае сантэхнічнае абсталяванне і бялізна. Яны проста застрашальныя па знешняму выгляду. Пра камфорт нашых ваннаў і прыгажосць мешкаватых жаночых камбінацыяў нават няёмка казаць. Такім чынам, у спадчыну з былых часоў нам засталося поўнае ігнараванне нашых фізіялагічных, цялесных патрэбаў. Ад гэтага - шмат нязручнасцяў.

Наважыўся інтэлігентны чалавек у выхадны дзень завітаць у абласную бібліятэку імя Карскага, часопісы пагартаць у чытальнай зале. Ці студэнт засеў за падшыўкамі газет ці дакументамі. Праз гадзіну-другую пачынаюць праяўляцца прыкметы неспакою. Але дарэмна шукаць, чытач, -прыбіральня тут толькі для супрацоўнікаў, для астатніх - зачынена на ключ. Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што калі добра папрасіць, то ключ дадуць. Але каму захочацца назаляць з інтымнымі праблемамі ў Доме кнігі? Лепш выйсці: самыя сумленныя пашпацыруюць на Савецкую, а не самыя - знойдуць месцейка непадалёку...

Наважыўся інтэлігентны пакупнік зрабіць закупы ва універмагу. Абышоў тры паверхі, паглядзеў на паказ індустрыяльных мадэляў адзення, пастаяў у чарзе. А потым закусіў тут жа, у кафэ на першым паверсе. І што ж, знойдзе ён у так званым «гандлёвым доме «Нёман» запаветны пакойчык? Дзе ж там! Тут таксама - толькі для персанала.

І зусім недапушчальнае становішча ў шматлікіх барах і закусачных, якіх так шмат у цэнтры. Прыбіральні там ёсць, але чамусьці наведвальнікаў у іх не пускаюць. У «Чабурэчнай», напрыклад, энергічная дама, што прыбірае са сталоў, нават не адразу зразумела, пра што ў яе пытаюцца. Фраза «Ці можна ў вас схадзіць у прыбіральню» чамусьці выявіла яе з раўнавагі. З выгукам «Чаго? У прыбіральню?! У нас тут доўга не затрымліваюцца!» - яна грымнула дзвярыма падсобкі, зрабіўшы далейшыя перамовы немагчымымі. Супрацоўніцы «Блінная» сарамліва паскардзіліся: «Мы і самі ходзім у кінатэатр «Гродна». Няўдачай скончыліся спробы адшукаць WC у «Грыль-бары». Зыходзячы з гэтага, можна зрабіць выснову, што наведванне пакояў адпачынку ўваходзіць у разрад самых дарагіх задавальненняў, якія ў нашым горадзе могуць прапанаваць толькі ўстановы класам вышэй.

Як вынік - нездавальняючае санітарнае становішча на вуліцах горада. Вакол кожнага піўнога павільёна зямля прапітана так, што ўлетку трава буяе, як у тропіках. Плады чалавечай жыццядзейнасці - звыклая з'ява на сцяжынках у лесапарках Пышкі і Румлёва. Не дзіва - убачыць іх і ля пад'ездаў...

Ад сарамлівага замоўчвання праблемы нічога не зменіцца да лепшага.

Галоўны метад барацьбы з антысанітарыяй у горадзе -гэта штрафы жыллёва-камунальным гаспадаркам і асобным парушальнікам. Аднак, паводле меркаванняў гарадскіх санітараў, асноўнае правіла ўсіх гарадоў былога СССР - хаваць бруд пад снегам, а калі снег растане -то пад травой.

Што ж, цяпер самы час, калі ўсё відаць - снег толькі сышоў, а трава не вырасла.

**Алена Сіневіч**

# Цукар знік яшчэ да пачатку лета

**Чарговая хваля цукровага дэфіцыту захліснула Беларусь. Нягледзячы на шматлікія запэўніванні вертыкалі, у свабодным продажы цукру няма, калі не лічыць трыццаціхвілінны гандаль прадуктовых магазінаў гэтым таварам.**

Паводле дадзеных Мінстата і словаў старшыні ўрада (прэм'ер-міністра С.Лінга) уласна вытворчасць цукру ў 1998 годзе склала 476,3 тысячы тон, што да ўзроўню 1997 года - 135,4 працэнта. Аднак цукру нават з павелічэннем вытворчасці не хапала, і Беларусь закупіла 134,5 тысячы тон (у асноўным на Украіне). Зыходзячы з вышэйзгаданых дадзеных, вынікае, што сумарныя рэсурсы цукру ў Рэспубліцы Беларусь склалі прыблізна 611 тысяч тон. Гэта ў два разы больш, чым у 1997 годзе і ў 2,8 разы болей, у параўнанні з 1996 годам. Аднак цукру ўсё яшчэ не хапае...

Зразумела, што беларусы не сталі першымі ласунамі ў Еўропе (гэта калі 611 тысяч тон цукру падзяліць на колькасць насельніцтва рэспублікі - прыблізна 10,5 мільёна чалавек). Але не ў гэтым справа. ПАГОНЯ ўжо разглядала прычыны знікнення цукру ў артыкуле «Беларускі парадокс украінскага цукру» **(гл. ПАГОНЮ ад 15 верасня 1998 года)**. Сёння можна канстатаваць: прычыны засталіся - цукру ў дзяржаўным гандлі няма. З-за ніжэйрынкавага кошту цукру ў дзяржгандлі ён за некалькі гадзін праходзіць шлях адтуль на шматлікія базары. Калі кошт цукру ў дзяржаўных крамах 28 лютага быў 98 500 рублёў за кілаграм, то на рынках рэспублікі значна вышэй (гл. табліцу).

**Табліца**

| Горад | Кошт за 1 кг |
|---|---|
| **Брэст** | 130 000 |
| **Віцебск** | 145 000 |
| **Гродна** (скідальскі рынак) | 145 000 |
| **Гродна** (грандіцкі рынак) | 150 000 |
| **Гомель** | 135 000 |
| **Менск** «камароўка» | 130 000 |
| **Менск** (ждановіцкі рынак) | 125 000 |
| **Магілёў** (цэнтр. рынак) | 150 000 |
| **Орша** цэнтр. рынак | 155 000 |
| **Асіповічы** (цэнтр. рынак) | 140 000 |

Дзяржава сама садзейнічае ўстанаўленню дэфіцыту на цукар. Справа ў тым, што па апошняму кантракту Беларусь закупіла на Украіне цукар па цане 0,33 даляра ЗША за кілаграм. 28 лютага па рынкаваму курсу (315 тыс. за даляр ЗША) 0,33 даляра - гэта было 104 000 беларускіх рублёў...

Высвятляецца, што набываючы цукар па 104 000 рублёў, дзяржава прадае яго па 98 500, і гэта без гандлёвых выдаткаў... Прычына - розніца паміж рынкавым наяўным курсам і курсам Нацыянальнага банка (228 000 рублёў за даляр), па якім і вядзе разлік дзяржава.

На наш погляд, прыход да адзінага курсу беларускага рубля пазбавіць праблемы з цукрам, і кошт яго ў розніцу будзе прыблізна 0,5 даляра ЗША. Калі гэтага не адбудзецца, цукру заўсёды не будзе хапаць у Беларусі, і асабліва ўлетку, калі патрэба ў ім ўзрастае ў некалькі разоў.

Наогул, за малым справа: прызнаць рынкавы курс афіцыйным.

**Кацярына Зволін**

# Курсы валют

На 10 сакавіка Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют: даляр ЗША — 231.000 беларускіх рублёў; еўра — 251.351,10; нямецкая марка — 128.513,78; расійскі рубель — 10.030. У параўнанні з учарашнім днём, афіцыйны курс даляра не змяніўся.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 10 сакавіка даляр куплялі па 310.000—315.000 і прадавалі па 320.000—325.000 рублёў.

У параўнанні з учарашнім днём, курс вырас у сярэднім на 5.000 рублёў.

**Дзмітрый Уласаў**

# Нас птушкі лётаць навучылі ...

**«Праблемы захавання заалагічнай разнастайнасці ў Беларусі» - пад такой назвай у Гродне адбыўся семінар. Арганізатарамі супольна выступілі мясцовы дзяржуніверсітэт імя Янкі Купалы, абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, а таксама заходне-беларускае таварыства аховы птушак.**

Кандыдат біялагічных навук Уладзімір Іваноўскі з Віцебска прааналізаваў значэнне верхавых балотаў Паазер'я ў захаванні папуляцый рэдкіх птушак. Вучоны адзначыў, што пасля праведзенай меліярацыі на працягу трох гадоў глеба губляе свае спажыўныя якасці, паступова забалочваецца. Былі выказаны папрок на адрас дзяржаўных асобаў, якія кіруюць прыродаахоўчымі ўстановамі, і вельмі мала выдаткоўваюць сродкаў на арніталагічныя патрэбы. Выхад з такога становішча, на думку эколага, - прыход ва ўладныя структуры вучоных-практыкаў.

Супрацоўнік інстытута заалогіі Нацыянальнай акадэміі Навук Беларусі Павел Пінчук распавёў пра рэдкіх птушак поймы Прыпяці. Там іх выяўлена 267 відаў, у тым ліку 48 відаў, што занесены ў Чырвоную Кнігу Беларусі. Многія птушкі маюць еўрапейскі статус з-за сваёй малалікасці і ўнікальнасці. Шмат шкоды птушкам нанесла меліярацыя. І цяпер працягваецца ўзвядзенне дамбаў, абвалоўванне берагоў рэчак, вырубка лісцевых дрэваў.

Біёлаг Аляксей Дуброўскі, прадстаўнік Палессеводдзяржгаса, запярэчыў, - маўляў, паразумення трэба шукаць разам. Грошы выдаткоўваюцца пад меліяратыўныя работы.

Але ёсць магчымасці частку сродкаў накіроўваць менавіта на аднаўленне флоры і фауны, прымаючы актыўны ўдзел у экалагічным абгрунтаванні меліяратыўных праектаў. Прадстаўнікі грамадскіх прыродаахоўчых арганізацый чамусьці забываюцца пра такую рэальную магчымасць. Прысутныя даведаліся, што зараз новыя маштабныя меліярацыйныя работы не праводзяцца, больш увагі надаецца падтрымцы ранейшых збудаванняў. А гэта значыць, што пашыраюцца ўмовы для захавання гняздоўяў многіх відаў птушак.

У дыскусіі прымалі ўдзел таксама доктар Жыдрунас Прэйкша з Літвы, арнітолаг з Менска Ігар Бышнёў, яго гарадзенскі калега Аляксандр Вінчэўскі ды іншыя. Прысутныя прагледзелі шмат слайдаў, некалькі відэафільмаў, выставу фотаработ натураліста Георгія Гулеўскага. Адбылося аўтобуснае падарожжа ў Белавежскую пушчу. Вынікі семінара знайшлі сваё адлюстраванне ў прынятых рэзалюцыях.

У рамках семінара таксама быў праведзены 7-ы з'езд заходне-беларускага таварыства аховы птушак.

# Еўропа не збіраецца займацца экспартам дэмакратыі

**Незалежныя газеты паведамлялі пра паездку ў Страсбург, Брусель і Бон прадстаўнікоў беларускай Хартыі-97. У складзе дэлегацыі быў і старшыня Гарадзенскага абласнога грамадскага аб'яднання «Ратуша» Аляксандр Мілінкевіч. Яму і адрасаваны нашы пытанні.**

***- Якія беларускія праблемы найперш цікавілі субяседнікаў?***

- Праблемы выхаду з канстытуцыйнага крызісу, прэзідэнцкія выбары і выбары ў мясцовыя Саветы. Еўрапейскія эксперты добра арыентуюцца ў сітуацыі на Беларусі. Сярэдні ж еўрапеец ведае пра нас надзвычай мала. У старога кантынента многа сваіх праблемаў: скарачэнне экспарту ў паўтара раза, інфляцыя, беспрацоўе. Плюс яшчэ Косава, тэрарызм, пагроза прыходу да ўлады ў Расіі чырвона-карычневых...

Сёння ў 13 краінах з 15 сяброў Еўрасаюза пры ўладзе сацыял-дэмакраты, адносіны якіх да парушэнняў Канстытуцыі і правоў чалавека ў нашай краіне даволі спецыфічныя.



***- У тым ліку і на вырашэнне палітычнага крызісу на Беларусі?***

- У сярэднім, думка гэтых колаў наступная: Лукашэнка бліжэй да Пінацэта, чым да Кастра. Беларускага прэзідэнта падтрымлівае большасць насельніцтва. У краіне няма голаду і г.д. Калі беларусаў задавальняе такі прэзідэнт, то Еўропе не варта займацца экспартам дэмакратыі. Кожны народ у першую чаргу сам павінен вызначаць свой лёс.

***- Беларуская апазіцыя надае шмат увагі заканчэнню легітымнага тэрміну прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі. А як заходнія палітыкі глядзяць на дату 20 ліпеня?***

- Рада Еўропы будзе разглядаць гэтае пытанне толькі ў выпадку звароту да яе нашага парламента, лідараў партый і грамадскіх аб'яднанняў альбо з нагоды масавых акцыяў пратэсту. Увогуле, Беларусь чакае вельмі няпэўны перыяд -напрыканцы лета і прэзідэнт, і прызначаная палата прадстаўнікоў, і нацыянальны сход, і мясцовыя Саветы могуць стаць нелегітымнымі з пункту гледжання заходніх дзяржаваў.

***- Ці зрабіў які-небудзь уплыў нядаўні Форум дэмакратычных сіл, які праходзіў у Менску, на еўрапейскіх палітыкаў?***

- З аднаго боку, Кангрэс зрабіў вялікае ўражанне на еўрапейскія структуры, бо прадэманстраваў сілу беларускай апазіцыі і яе волю да аб'яднання. Вялікае засмучэнне выклікае толькі тая акалічнасць, што апазіцыя ўсё яшчэ не здольна вызначыць адзінага палітычнага лідара.

**Антон Лабовіч**

**На здымку:** на прыёме ў генеральнага сакратара Рады Еўропы Даніэля Таршыса. Злева направа: Мікалай Халезін, Таццяна Севярынец, Даніэль Таршыс, Аляксандр Мілінкевіч, Тадэвуш Гавін.

